# Голас Радзімы

№ 43 (2081)
27 кастрычніка 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Больш за 40 гадоў жывуць у добрай згодзе Вера Венядзіктаўна і Пётр Аляксандравіч ГАТОЎКІ. Яны змалку і да старасці працавалі, зараз абодва на пенсіі. Даўно выраслі і знайшлі сваю ўласную жыццёвую сцежку дачка і сын. Час ад часу яны наведваюцца ў бацькоўскі дом, дзе па-ранейшаму іх заўсёды чакаюць. Старэйшыя Гатоўкі жывуць на ўскрайку вёсачкі Урэчча Вілейскага раёна. Але сюды прыходзяць і прыязджаюць людзі з усіх куткоў Беларусі. Справа ў тым, што Пётр Аляксандравіч — выдатны народны ўмелец, у яго руках звычайная саломка ператвараецца ў розныя цудоўныя рэчы. Вось і цікавяцца людзі, а майстар сваіх сакрэтаў не хавае, рады падзяліцца багатым вопытам.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

БЕЛАРУСЬ У ААН

## У ГОНАР ГЕНЕРАЛЬНАГА САКРАТАРА

Міністр замежных спраў Беларускай ССР А. Гурыновіч даў снеданне ў гонар генеральнага сакратара ААН Х. Перэса дэ Куэльяра, на якім прысутнічалі кіраўнікі дэлегацый СССР і УССР, члены дэлегацыі БССР, намеснікі генеральнага сакратара ААН, іншыя адказныя супрацоўнікі Сакратарыята Арганізацыі.

У ходзе снедання, якое прайшло ў дружалюбнай абстаноўцы, адбыўся грунтоўны абмен думкамі аб рабоце 43-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, шляхах павышэння ролі і эфектыўнасці ААН. З прамовамі выступілі міністр замежных спраў БССР і генеральны сакратар ААН.

З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

## ПОМНІК СКАРЫНУ

На чарговым пасяджэнні Бюро ЦК КПБ разгледжаны шэраг пытанняў, прысвечаных эканамічнаму, грамадскаму і культурнаму жыццю рэспублікі. Сярод іх абмеркаваны пытанні стварэння ў Мінску ў рэстаўрыруемым гістарычным цэнтры — Верхнім горадзе — музея гісторыі Беларусі і Кампартыі Беларусі.

У сувязі з 500-годдзем з дня нараджэння Францыска Скарыны, якое будзе адзначана ў 1990 годзе, прынята пастанова аб узвядзенні ў Мінску помніка Ф. Скарыну і аб прысваенні яго імені адной з новых вуліц сталіцы рэспублікі.

ЗАРУБЕЖНЫЯ ГОСЦІ

## ПАСОЛ КАНАДЫ Ў МІНСКУ

Першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Я. Сакалоў прыняў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Канады ў Савецкім Саюзе В. Тэрнера, які знаходзіўся ў Мінску, па яго просьбе. Адбылася гутарка, у час якой Я.Сакалоў расказаў госцю аб задачах, што вырашае рэспубліка, аб рабоце працоўных Беларусі па паглыбленню працэсу перабудовы і шляхах дасягнення пастаўленых мэт.

В. Тэрнер прыняў удзел у цырымоніі ўрачыстага адкрыцця выстаўкі «Сучаснае мастацтва Канады», якая дэманструецца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі. Арганізатары выстаўкі — пасольства Канады ў СССР, Міністэрства культуры СССР у садружнасці з Фондам спадчыны.

ПАБЫВАЮЦЬ У СССР

## ЗАПРАШЭННЕ Ў ПАЕЗДКУ

Уся сям'я палякаў Баканаў, якая жыве ў вусці Одры, збіраецца ў далёкую дарогу — да берагоў Случы і Даўгавы. Разам з жонкай, трыма сынамі, нявесткамі і двума ўнукамі 52-гадовы Францішак наведае сваякоў пад Мінскам, а затым пабывае ў Латвіі, што парадніласа са Шчэцінскім ваяводствам.

Запрашэнне зрабіць паездку ў Савецкі Саюз прыйшло ад Генеральнага сакратара ЦК КПСС, якога сям'я Баканаў сустракала на парозе свайго дома хлебам-соллю ў час афіцыйнага дружалюбнага візіту М. С. Гарбачова ў ПНР. На памяць аб гэтай падзеі на самым ганаровым месцы дома вісіць цяпер прысланая савецкім кіраўніком фатаграфія з аўтографам.

Гаспадар сям'і адзначаны шэрагам узнагарод, яму прысвоены званні заслужанага работніка сельскай гаспадаркі ПНР і заслужанага грамадзяніна Галенюўскай зямлі, на якой жывуць і працуюць Баканы. У Баканаў-малодшых усё яшчэ наперадзе. Іх вопыт і веды, сямейныя традыцыі могуць спатрэбіцца беларусам і латышам, дзе нараджаецца фермерскі рух.

НА АТРЫМАННЕ ПРЭМІІ

## АЎТАМАБІЛІ - ДОЎГАЖЫХАРЫ

Да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне Дзяржаўнай прэміі БССР гэтага года дапушчаны цыкл калектыўных работ, якія раскрываюць навуковыя асновы і метады прагназіравання і забеспячэння надзейнасці складаных тэхнічных сістэм.

Найбольшы эфект ад іх укаранення праявіўся ў прадукцыі Мінскага аўтазавода.

Вядома, чым раней знойдзена канструктарская памылка, тым меншыя выдаткі ў народнай гаспадарцы. Але сёння ў савецкім аўтамабілебудаванні асноўныя недапрацоўкі выпраўляюцца, як кажуць, на плячах спажыўца. Каб не дапускаць гэтага, спецыялісты прадпрыемства сталі больш увагі надаваць прагназіраванню надзейнасці вузлоў і матэрыялаў.

Аб'яднанне «БелаўтаМАЗ» адным з першых у галіне ўкараніла навуковыя распрацоўкі па гэтай актуальнай тэме. За апошнія тры гады сярэдні мотарэсурс магістральных аўтапаездоў новага сямейства МАЗ-6422 павялічыўся амаль удвая. Сёння ён складае 600 тысяч кіламетраў.

ТАВАРЫСТВА ПАЙШЧЫКАЎ

## ВЫГАДНА ЎКЛАДЧЫКУ І ПРАДПРЫЕМСТВУ

Фінансавы дабрабыт свайго прадпрыемства яшчэ больш вырашылі ўмацаваць працаўнікі Магілёўскага аб'яднання шаўковых тканін. Па ініцыятыве савета працоўнага калектыву тут створана таварыства пайшчыкаў. Члены яго на добраахвотных пачатках перадаюць свае асабістыя грашовыя зберажэнні ў пазыку прадпрыемству на далейшае нарошчванне вытворчага патэнцыялу і вырашэнне сацыяльных праблем.

Фінансавая акцыя стала магчымай дзякуючы пераходу прадпрыемства на гаспадарчы разлік і самафінансаванне. Выгаду атрымаюць і ўкладчыкі, і прадпрыемства. Кожнаму пайшчыку гарантуецца шэсць працэнтаў гадавых ад унесеных сродкаў. Акрамя гэтага, будуць налічвацца дадатковыя працэнты па выніках гаспадарчай дзейнасці прадпрыемства за кожны год.

ЗЕМЛЯКУ-АСВЕТНІКУ

## ПАМЯТАЮЦЬ МСЦІСЛАЎЦА

Першы помнік аднаму з заснавальнікаў друкарскай справы на Русі Пятру Мсціслаўцу адкрыты на яго радзіме — у старажытным Мсціславе.

Пётр Мсціславец быў паплечнікам першадрукара Івана Фёдарава, удзельнічаў у заснаванні маскоўскай друкарні. У 1564 годзе яны сумесна выпусцілі першую рускую датаваную друкарскую кнігу «Апостал».

Помнік земляку-асветніку стварылі выхаванцы Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, таксама выхадцы з Мсціслаўскага раёна, браты Мікалай і Юрый Маліноўскія. Дыпломную работу яны перадалі ў падарунак гораду з выпадку яго 850-годдзя.

НОВАЯ ТЭХНІКА

## ПЕРШАЕ ЗНАЁМСТВА

Усяго некалькі эксперыментальных кормаўборачных камбайнаў «Палессе-250» выраблена ў вытворчым аб'яднанні «Гомсельмаш», а на новую тэхніку ўжо звярнулі сур'ёзную ўвагу працаўнікі палёў.

На выпрабаваннях у Расійскай Федэрацыі, Беларусі, Украіне гэтыя універсальныя энергетычныя сродак заслужыў высокую ацэнку спецыялістаў. Перавага новых камбайнаў не толькі ў больш якасным здрабненні кармоў і павышанай надзейнасці, але і ў круглагадовым выкарыстанні іх у гаспадарках на іншых работах. У будучым годзе гомельскія сельмашаўцы пачнуць серыйны выпуск новых машын.

МАДЭРНІЗАЦЫЯ

## «МАЛЫШ» СТАНЕ МАЛЕНЬКІМ

Праз дваццаць гадоў вярнуліся на Ваўкавыскі малочнакансервавы камбінат спецыялісты французскай фірмы «Сіфаль», каб замяніць зманціраваныя імі ж лініі па выпуску дзіцячага харчавання «Малыш» і «Малютка».

У абноўленым цэху на дапамогу рабочым і тэхнолагам упершыню прыйшлі камп'ютэры. Сучасныя апараты ў два разы больш прадукцыйныя за старыя, а таму абслугоўваюць кожны з іх не пяць чалавек, як раней, а ўсяго два. Літаральна за тыдзень новую лінію можна пераабсталяваць так, што «Малыш» стане меншым: замест упакоўкі вагой паўкілаграма з'явяцца каробачкі — 250 грамаў.

РАСПРАЦОЎКІ ВУЧОНЫХ

## БУЛЬБА БЕЗ АДХОДАЎ

У Інстытуце эксперыментальнай батанікі АН БССР створаны так званы сарбент-напаўняльнік.

Атрымліваюць яго з лупін і іншых адходаў бульбы. Прымяняюць пры сушцы высакавязкіх вадкіх харчовых і кармавых прадуктаў. Атрыманыя паўфабрыкаты выкарыстоўваюць пры вырабе кандытарскай, хлебабулачнай, мяснай і іншай прадукцыі. Якасць прадуктаў пры гэтым паляпшаецца. Навінка знаходзіць попыт у мікрабіялагічнай, медыцынскай прамысловасці.

Гадавы эканамічны эфект ад вытворчасці сарбента-напаўняльніка на адной толькі тэхналагічнай лініі — 142 тысячы рублёў. Але самае галоўнае, што сарбент дазваляе вырашыць праблему адходаў. Пры яго вырабе ніякіх лупін ад бульбы ўжо не застаецца.

УТЫЛІЗАЦЫЯ АДХОДАЎ

## «КАЖУХ» ДЛЯ ДОМА

Тыя, хто носіць адзенне са штучнага футра, і не падазраюць, колькі праблем узнікае пры утылізацыі адходаў хімічных валокнаў. Галоўнае — куды іх дзець?

На Жлобінскай фабрыцы штучнага футра адзін з асноўных відаў адходаў — кароткія паліакрылнітрыльныя валокны, якія звычайна закопвалі ў зямлю ці спальвалі. Але ні тое, ні другое не гарантавала чысціню навакольнага асяроддзя, выдзяляліся рэчывы, шкодныя не толькі для чалавека, але і для раслін, мікраарганізмаў.

І тады ў Інстытуце механікі металапалімерных сістэм АН БССР распрацавалі тэхналагічны працэс і абсталяванне для вырабу з гэтых адходаў домабудаўнічых цеплаізаляцыйных матэрыялаў — пліт. Лінію ўстанавілі на фабрыцы. Выпрабаванні новай прадукцыі на атмасферастойкасць паказалі: нават праз некалькі гадоў эксплуатацыі ў натуральных умовах пліты захоўваюць зыходныя ўласцівасці. Дамы «апрануцца» ў цёплыя «кажухі». І прырода ахоўваецца, і народнай гаспадарцы карысць.

НА МІЖНАРОДНЫМ ФЕСТЫВАЛІ

## ДВА ПРЫЗЫ «АДСТУПНІКА»

Аб'яўлены імёны лаўрэатаў традыцыйнага XXI міжнароднага фестывалю навукова-фантастычных фільмаў, які завяршыўся ў прымарскім каталонскім горадзе Сіджэсе.

Фільмам-пераможцам фестывалю стала карціна рэжысёра В. Уорда «Мараплавец» (сумесная аўстралійска-новазеландская вытворчасці). Адразу дзвюх узнагарод удастоена савецкая стужка «Адступнік» беларускага рэжысёра В. Рубінчыка: лепшым акцёрам прызнаны Г. Гладзій, а лепшым аператарам — Ю. Елхаў.

У афіцыйным конкурсе ўдзельнічала 14 поўнаметражных мастацкіх фільмаў, прадстаўленых Іспаніяй, ЗША, СССР, Бразіліяй, Нарвегіяй, Фінляндыяй, Індыяй, Канадай. Па-за праграмай была паказана таксама савецкая карціна «Амаглеба» грузінскага рэжысёра Надара Манагадзе.

ЭСТЭТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

## АДКРЫЮЦЦА МУЗЫЧНЫЯ ШКОЛЫ

Не спяшаюцца дамоў пасля ўрокаў многія школьнікі Мішкавіцкай дзесяцігодкі Шумілінскага раёна. Крыху адпачыўшы і адклаўшы ўбок падручнікі, яны займаюць месца ў музычных класах. Тут іх чакаюць маладыя педагогі, выпускнікі Навапалацкага музычнага вучылішча Сяргей Семянькоў і Іна Чувахіна.

У наступным навучальным годзе на базе агульнаадукацыйных адкрыюцца музычныя школы і ў калгасах імя Урыцкага і імя Энгельса. Гэтыя навучальныя ўстановы, па задуме райаддзела культуры, закліканы стаць не проста школамі для пачынаючых, а быць своеасаблівымі цэнтрамі эстэтычнага выхавання сяльчан.

І добры прыклад паказваюць мішкавіцкія педагогі. Яны стварылі ў вёсцы вакальна-інструментальны ансамбль, арганізавалі калгасны хор.

СЛУЦКІ ЦУКАР





Пятнаццаць раёнаў Мінскай і Брэсцкай абласцей пастаўляюць цукровыя буракі на Слуцкі цукровы камбінат. Рытмічна працуюць цэхі камбіната. За сезон тут плануюць атрымаць 45 тысяч тон цукру з буракоў сёлетняга ўраджаю.

НА ЗДЫМКАХ: за тэхналогіяй перапрацоўкі цукровых буракоў сочыць вопытны інжынер Валянціна ЧАРНУШЭВІЧ; на разгрузачнай пляцоўцы.

*СТВОРАНА ДАБРАЧЫННАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ*

# ЗАХАВАЦЬ ШЧАСЛІВЫМ ДЗЯЦІНСТВА

Сядзім з мінскім хлопчыкам Андрэйкам на лаўцы ў парку. Давер'е між намі поўнае і шчырае. Хочацца скарыстаць яго добры настрой, цікаўлюся:

— Скажы, Андрэйка, у якія дні бывае для цябе свята?

— Калі з татам гуляем у парку.

— А яшчэ?

— Калі мама дазваляе есці марожанае.

— І ўсё?

— Калі з Сяргейкам катаемся на веласіпедах...

За кожным адказам хлопчык па-даросламу загінаў пальчыкі. Ды раптам не хапіла іх, ён махнуў рукой і пабег глядзець акуня, якога толькі што выцягнуў рыбак са Свіслачы.

Па-добраму зайздросціў Андрэйку: шчаслівым расце, дасціпным, разумным. Такіх дзяцей большасць, і мы, дарослыя, доўгі час цешылі сябе, што нашы дзеці самыя шчаслівыя ў свеце.

Час перабудовы, дэмакратызацыі і публічнасці прымусіў нас зірнуць на праблему дзяцінства больш патрабавальна і строга. Кажуць, калі адно дзіця ў бядзе, дык гэта бяда ўсяго грамадства. А ў нас?

Мы раптам адкрылі для сябе горкую праўду. Нашы «шчаслюўчыкі» маюць пільную патрэбу ў заступніцтве. Ад каго? Ад тых бацькоў, што выпівохі, гулякі і дармаеды. Ад чыноўнікаў, якія не спяшаюцца запланаваць будаўніцтва новых школ, дзіцячых садоў ці дамоў піянераў. Ад дактароў, якія не могуць як след вылечыць ад хвароб. Ад настаўнікаў, якія прыйшлі ў класы не па закліку сэрца, а больш дзеля зарплаты. Ад дырэктара завода, труба якога забруджвае луг ці рэчку, дзе любяць гуляць дзеці...

Вось і ўзнікла патрэба стварыць такое актыўнае грамадства дарослых людзей, якое выступала б абаронцам і заступнікам правоў дзяцей. Такую арганізацыю назвалі — Савецкі дзіцячы фонд імя У. І. Леніна. У лютым гэтага года створана і Беларускае аддзяленне Усесаюзнага фонду. Яго інакш можна было б назваць саюзам добрых сэрцаў альбо таварыствам «Сябры дзяцей».

Сапраўды, наша новая арганізацыя аб'ядноўвае ўсіх людзей, якія жадаюць аказаць маральную, матэрыяльную дапамогу дзецям. У нас няма членскіх білетаў. Заяву ў наш саюз людзі пішуць сваімі добрымі справамі і ўчынкамі ў адносінах да дзяцей, сваімі фінансавымі і матэрыяльнымі ўзносамі. З гэтай мэтай адкрыты спецыяльны рахунак — № 707 — ва ўсіх банках рэспублікі. Дзейнічаюць таксама і кніжныя банкі, якія прымаюць матэрыяльны дар (кнігі, мастацкія карціны, цацкі, іншыя рэчы) для патрэб перш за ўсё сіроцкіх дзіцячых устаноў.

Прыемна, што рахунак Савецкага дзіцячага фонду № 707 стаў вельмі папулярным сярод жыхароў Беларусі. Самыя розныя арганізацыі і людзі розных узростаў і веравызнання ўносяць добраахвотны ўзнос у скарбонку Дзіцячага фонду. Я падкрэсліваю, добраахвотны, бо згодна Статуту нашай арганізацыі мы не маем права праводзіць якую-небудзь прымусовую акцыю. У рады сяброў дзяцей паві[illegible]і прыйсці людзі сапраўд[illegible]брыя і спагадлівыя.

Многія цікавяцца, куды, на якія патрэбы, ідуць сродкі нашага фонду. Адказ можа быць кароткім — толькі на патрэбы дзяцей. Да аднаго рубля. А якія гэта патрэбы?

Узнікла неабходнасць дадаткова, разам з дзяржаўнымі намаганнямі, дапамагчы дзецям некаторых раёнаў Гомельскай і Магілёўскай абласцей, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай аварыі. І мы ставім задачу, каб усе дзеці гэтых раёнаў летам адпачылі ў курортных зонах краіны. Ёсць намеры і жаданне пабудаваць для такіх дзяцей спецыяльны круглагадовы аздараўленчы санаторый на беразе, скажам, Балтыйскага ці Чорнага мора. Ёсць патрэба ў набыцці сучаснага замежнага абсталявання для дзіцячых бальніц, паліклінік, дыягнастычных кабінетаў, радзільных дамоў.

Галоўнай задачай Савецкага дзіцячага фонду, пазначанай у Статуце пад нумарам адзін, якраз і з'яўляецца: аб'яднаць усіх людзей для выканання канкрэтных грамадскіх акцый, скіраваных на абарону здароўя, інтарэсаў дзяцей, удасканаленне ўсіх аспектаў іх выхавання і развіцця. У гэтай сувязі на адным з нашых прэзідыумаў мы разгледзелі і прынялі цэлую праграму «Здароўе».

Цяпер рыхтуем і распрацоўваем разам з жансаветам і прафсаюзам рэспублікі комплексную праграму «Сям'я». Скіруем грамадскія намаганні на тое, каб выпрацаваць сапраўдны культ сям'і з яе ўстойлівымі маральнымі прынцыпамі, каб зменшыць колькасць сірот пры жывых бацьках, каб прыпыніць рост разводаў, каб нашы дзеці мелі сапраўднае дзяцінства, бацькоўскую ласку і ніколі не гублялі весялосці.

Асаблівы наш клопат — Дамы дзіцяці, дзетдамы, школы-інтэрнаты. Мы хочам, каб дарослыя людзі аказалі выхаванцам гэтых сіроцкіх устаноў найперш сардэчную, маральную падтрымку, каб завязалася сапраўднае сяброўства паміж дарослымі — шэфамі і дзецьмі-сіротамі. Практыкуем пабудаваць пад Вілейкай дзіцячы дом сямейнага тыпу. Выяўляем сем'і, якія маглі б узяць на выхаванне сірот.

Дзіцячы фонд бярэ на сябе клопат праяўляць цікаўнасць і да былых выхаванцаў дзетдамоў, школ-інтэрнатаў: дзе і як яны вучацца альбо працуюць, хто іхнія сябры, у якіх умовах жывуць. З гэтай мэтай мы ствараем Савет былых выхаванцаў, які пад нашым кіраўніцтвам і натхненнем павінен, як грамадскі орган, узяць на сябе многія клопаты. З сёлетняга года ўстанаўліваем стыпендыі Дзіцячага фонду для сірот — навучэнцаў інстытутаў, тэхнікумаў, вучылішчаў. І марым, калі крыху разбагацеем, адкрыць спецыяльную прэмію «Сябар дзяцей». Устанавіць дыплом, медаль. А членамі журы ў асноўным маглі б стаць самі дзеці. Няхай вызначаюць, хто іх сябар. Гэта можа быць чалавек любой прафесіі: повар і медык, настаўнік і пенсіянер, пісьменнік і мастак, піянерскі важатыя і кампазітар, шафёр і акцёр. Лаўрэатам такой дзіцячай адзнакі можа стаць і замежны [illegible]бар, які праявіць шчыр[illegible] і сардэчнасць, бескарыслівасць і дабрыню да нашых дзяцей.

Цяпер мы рыхтуемся да першага ў рэспубліцы злёту «Дзеці вайны». Маем намер стварыць саюз з былых дзяцей вайны. Многія з іх перажылі гітлераўскія канцлагеры, многіх фашысты вывезлі ў рабства. Нялёгка склаўся лёс і тых дзяцей, якія аказаліся на акупіраванай тэрыторыі, у партызанскіх атрадах, нават у эвакуацыі. Ім, як і дарослым, хапіла гора спаўна. Вайна пазбавіла іх дзяцінства, яны рана спазналі холад, голад, многія носяць маральныя і фізічныя раны. Гэта — апошнія сведкі вайны. Мы хочам згуртаваць гэтых людзей у саюз «Дзеці вайны». Чакаем і ад іх актыўнасці ў рабоце Дзіцячага фонду.

Нашаму фонду нададзена права развіваць і камерцыйную дзейнасць. Збіраемся адкрыць свой кааператыў з магазінам. Хочам аб'яднаць школьнікаў Мінска, якія праяўляюць здольнасці ў народных рамёствах, мастацтве і г.д. Марым сабраць таленавітых дзяцей-сірот у мастацкі вытворчы камбінат, дзе яны змаглі б спаўна раскрыць сябе, а потым аказалі б дапамогу ў мастацкім афармленні памяшканняў дзетдамоў, школ-інтэрнатаў.

Клопатаў і планаў вельмі шмат. Усе яны скіраваны на паляпшэнне выхавання і развіцця нашых дзяцей. Ставім задачу і такую: разбудзіць сумленне грамадскасці, каб кожны чалавек, які б пасаду ні займаў, дзе б ні працаваў, часцей задаваў сабе пытанне: «Што я сёння зрабіў для дзяцей?» Даўнейшы, яшчэ ленінскі, лозунг «Усё лепшае — дзецям» мы павінны здзейсніць сваімі лепшымі намерамі і клопатамі ў адносінах да юных грамадзян. Ім жа прадаўжаць добрую справу перабудовы. Ім выконваць заўтрашнім днём самыя запаветныя мары рэвалюцыянераў.

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**пісьменнік, старшыня Беларускага аддзялення Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна.**

## ФОТА З АРХІВА

Сярод тых нашых чытачоў, хто мае ўжо сталы век, мабыць, знойдзецца нямала людзей, якія нарадзіліся ў колішняй Заходняй Беларусі, добра зведалі жыццё пад прыгнётам буржуазнай Польшчы.

Жорсткі сацыяльны і нацыянальны ўціск не мог не выклікаць у беларускага насельніцтва адпору і супраціўлення прыгнёту. Адной з першых форм барацьбы за вызваленне ў Заходняй Беларусі стаў партызанскі рух у 1921—1925 гадах.

Большасць у партызанскіх фарміраваннях складалі сяляне, рамеснікі і вясковая інтэлігенцыя. Неаднародным быў і палітычны склад партызан. Там, дзе вызваленчым рухам кіравалі камуністы (Палессе, Віленшчына, Навагрудчына), ён меў класавы, антыпамешчыцкі характар, быў больш арганізаваны, не раз набліжаўся да масавых народных паўстанняў, стварае рэвалюцыйную сітуацыю. Сярод кіраўнікоў-камуністаў такіх фарміраванняў былі людзі сапраўды легендарныя: С. Ваўпшасаў, В. Корж, К. Арлоўскі. Кірыла Арлоўскі — адзін з самых вядомых людзей у беларускай гісторыі апошняга часу. У 1943 годзе К. Арлоўскі стаў Героем Савецкага Саюза — так быў адзначаны яго ўдзел у партызанскай барацьбе з гітлераўскімі акупантамі. А ў 1958 годзе яму прысвоена ганаровае званне Героя Сацыялістычнай Працы: калгас «Рассвет» на Магілёўшчыне, старшынёй якога ён быў з 1944 года, вырас у буйную шматгаліновую сельскую гаспадарку з высокім узроўнем культуры земляробства і жывёлагадоўлі.



**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі партызанскага руху ў Заходняй Беларусі І. РАМАНЧУК, З. АБРАМЧУК і К. АРЛОЎСКІ. 1924—1925 г. г.**

# КРЫНІЦА КАШТОЎНАЙ ІНФАРМАЦЫІ

Мудрагелістыя карціны, якія нібыта сышлі з мальберта мастака-авангардыста, дапамагаюць вучоным Інстытута прыкладной фізікі АН БССР распазнаваць найменшыя хібы ў матэрыялах, што вырабоўваюцца.

Малюючы на экране тэлевізара адлюстраванне ўнутраных структур, камп'ютэр аўтаматызаванай сістэмы неразбуральнага кантролю пераводзіць складаныя фізічныя характарыстыкі рэчыва ў даступную ўспрыняццю каляровую гаму.

Тое, што для недасведчанага выглядае толькі забаўнай абстракцыяй, для навуковага супрацоўніка лабараторыі праблем ажыўлення і адаптацыі прамысловых робатаў Паўла Лагвіновіча — крыніца каштоўнай інфармацыі. Ён замацоўвае на спецыяльным стале чарговы ўзор кампазіцыйнага матэрыялу і ўключае сістэму. Падпарадкоўваючыся камандзе, паслухмяны датчык радок за радком абследуе пласціну, і вось ужо на экране высвечваецца «жывапіснае палатно». Кожны колер гаворыць аб ледзь прыкметных адрозненнях у электраправоднасці, а значыць, і ў шчыльнасці матэрыялу.

У сённяшнім эксперыменце патрабаванні да якасці не вельмі высокія, і вучоная цалкам задавальняюць люобыя адценні, акрамя белага. Гэты колер гаворыць аб тым, што валокны матэрыялу разышліся або ўнутры пласціны аказаліся пузыры паветра.

Узору, які правяраўся, яшчэ «пашанцавала» — белая паласа цягнулася ўздоўж самага краю, і пры апрацоўцы бракаваны ўчастак можна зрэзаць.

— Прапанаваныя новыя метады работы вымярэнняў і выяўлення залежнасці паміж рознымі фізічнымі характарыстыкамі і механічнымі ўласцівасцямі ўзораў зрабілі магчымым аўтаматызаваны кантроль кампазіцыйных матэрыялаў, якія традыцыйна цяжка паддаваліся праверцы, — гаворыць загадчык лабараторыі доктар тэхнічных навук Вікенцій Крыловіч. — Укараненне навінкі абяцае вельмі вялікую эканомію — на вытворчасцях, дзе шырока выкарыстоўваюцца кампазіты, штат кантралёраў дасягае сарака працэнтаў ад ліку працуючых. Акрамя таго, выкарыстанне такой дакладнай дэфектаскапіі пазбавіць ад лішніх матэрыяльных затрат — адпадае неабходнасць выбраку дэталей-двайнікоў.

Нават яшчэ не зусім дасканалы правобраз гэтай сістэмы, укаранёны ў адным з навукова - вытворчых аб'яднанняў, ужо прынёс сотні тысяч рублёў эканоміі.

## АМЕРЫКАНСКІЯ ШКОЛЬНІКІ ПРА МІНСК І МІНЧАН

**Не сакрэт, што да нядаўняга часу адносіны паміж Злучанымі Штатамі Амерыкі і Савецкім Саюзам былі далёка не лепшымі. Дзелавыя і культурныя сувязі зводзіліся да мінімуму, прапагандысцкая машына ў ЗША рознымі сродкамі стварала з савецкага народа «вобраз ворага» для амерыканцаў, ды і нашы крыніцы інфармацыі ў асноўным асвятлялі жыццё амерыканцаў з аднаго негатыўнага боку: беспрацоўе, злачыннасць, гонка ўзбраенняў. Сёння, дзякуючы палітыцы перабудовы і публічнасці, у адносінах нашых дзвюх краін адбываюцца вялікія перамены. Сустрэчы ў вярхах, развіццё эканамічных і культурных сувязей адрадзілі цікавасць адзін да аднаго і простых людзей.**

**Мы пісалі ўжо аб тым, што вясной гэтага года ў Мінску адбылася першая сустрэча савецкіх і амерыканскіх школьнікаў. Сорак чатыры навучэнцы 9—12 класаў школы раёна Ляхай Велі ў штаце Пенсільванія цэлы год у вольны час працавалі, арганізоўвалі розныя мерапрыемствы і латарэі, каб сабраць сродкі для паездкі ў Савецкі Саюз, каб самім бліжэй пазнаёміцца з культурай, людзьмі і краінай. І іх мара збылася. У Мінску госці наведвалі школы, танцавалі, спаборнічалі, смяяліся, дзяліліся думкамі са сваімі савецкімі равеснікамі. Яны пабывалі ў сем'ях нашых школьнікаў. Словам, мелі унікальную магчымасць убачыць жыццё савецкіх людзей знутры і вярнуліся дамоў з іншай думкай пра нашу краіну. У час сустрэчы нам удалося атрымаць толькі два кароткія інтэрв'ю ад амерыканскіх школьнікаў, таму што арганізатары паставілі цвёрдыя ўмовы, каб дзяцей як мага менш разлучалі.**

**Але гэты прабел нам дапамог папоўніць кіраўнік амерыканскай дэлегацыі Вальтэр Трэмер, які папрасіў школьнікаў адказаць на шэраг пытанняў аб Савецкім Саюзе і апублікаваў іх у невялікай брашуры. Адказы школьнікаў адлюстроўваюць іх пачуцці, думкі, уражанні пасля таго, як яны пазнаёміліся з зусім новай для іх рэальнасцю. Шкада, што мы не можам змясціць усе адказы. Але думаем, ужо тое, што мы выбралі, зацікавіць нашых чытачоў.**

**Дык што ж думаюць пра нашу краіну амерыканскія школьнікі пасля таго, як пабывалі тут!**

# ЯК ПАЗБАВІЦЦА СТРАХУ?



**— РАСКАЖЫЦЕ ПРА САМАЕ ДОБРАЕ ЦІ САМАЕ ДРЭННАЕ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ВАМІ Ў ЧАС ГЭТАЙ ПАЕЗДКІ!**

«Самае добрае для мяне на працягу ўсёй паездкі быў час у Мінску. Усе ўражанні ад знаходжання там будуць беражліва захоўвацца ў памяці. Мець магчымасць сустрэцца, гаварыць і пасябраваць з людзьмі, якія жывуць на другім баку планеты, — у гэта цяжка паверыць! Цэлы тыдзень у Мнску мы кожную раніцу прачыналіся, ведаючы, што атрымаем яшчэ крыху ведаў аб зусім іншай культуры, чым наша. Мы даведаліся столькі новых рэчаў аб іх краіне і зразумелі, што яны сапраўды такія ж людзі, як і мы. І ў цэлым сустрэчы з маімі савецкімі сябрамі перакрываюць усё астатняе».

**С. Г.**

«Самае лепшае, што здарылася са мной, было наведанне дамоў школьнікаў. Гэта самае вялікае ўражанне майго жыцця. Нас частавалі ласункамі на фарфоры і серабры. Уся сям'я хацела як мага больш даведацца пра нас і літаральна бамбіла пытаннямі. Я зразумела, што людзі ў Савецкім Саюзе такія ж, як і амерыканцы. Гэтыя тры гадзіны змянілі маё ўяўленне не толькі аб Савецкім Саюзе, але і аб людзях ва ўсім свеце».

**Т. М.**

«Абмен думкамі ў Мінску даў многа спецыфічных уражанняў кожнаму з нас. Для мяне самым лепшым была сустрэча з многімі людзьмі, каго я магу цяпер лічыць сябрамі. Я не мог паверыць, што гэтыя людзі з краіны, якую можна лічыць нашым ворагам, могуць быць такімі шчырымі і дружалюбнымі ў адносінах да нас».

**Дж. Б.**

«Нічога ў гэтай паездцы не было дрэннага. Можа быць, толькі яда. Але, мне здаецца, нам трэба было яе пакаштаваць. І калі яна спадабалася — цудоўна, калі не — што ж зробіш. Яда сапраўды не была важнай часткай гэтай паездкі. Мы ехалі за перспектывай у нашых адносінах».

**С. Д.**

«Самым дрэнным для мяне была неабходнасць сказаць «Да пабачэння» людзям і мясцінам, якія я шчыра люблю і ведаю, што, хутчэй за ўсё, ніколі больш не ўбачу».

**С. М.**

«Самае дрэннае, што здарылася са мной, гэта пакуты ад стомы ў Мінску. Я быў змучаны нашым распарадкам і недахопам сну. Былі і іншыя непрыемнасці, але настолькі нязначныя, што яны мне нават спадабаліся».

**Т. М.**

«Нічога дрэннага са мной не здарылася»!

**Дж. Ф.**

**— САМАЕ МОЦНАЕ ЎРАЖАННЕ!**

«...Усведамленне таго, што я патрэбен сваім сябрам у Мінску і што мы застаёмся сябрамі назаўсёды. Нават, калі я ніколі іх больш не ўбачу, я буду помніць і цаніць нашу сустрэчу».

**Дж. Д.**

«Сустрэчы са школьнікамі і іх сем'ямі ў іх дома».

**С. Б.**

«Частку першага дня ў Мінску мы правялі ў Палацы піянераў, будынку, дзе праходзяць пазашкольныя заняткі. Здавалася, што ўсе яны вельмі рады бачыць нас, і адкрылі для нас усе класы. Мяне вучыла рабіць цудоўныя рэчы з саломы пяцігадовая дзяўчынка. Моўны бар'ер яе зусім не хваляваў. Яна так многа ведала для малога дзіцяці. Я быў захоплены ўсім, што яны могуць рабіць. Пазней мне сустрэлася дзяўчынка дзесяці гадоў. Мы гаварылі, і ёй так хацелася выкарыстаць усё сваё веданне англійскай мовы і даведацца ўсё пра мяне. У самым канцы, пасля таго, як мы абмяняліся адрасамі, мы ўсе падняліся, каб ісці. Яна падбегла да мяне, кранула за руку. Не паспеў я апомніцца, як яна зняла з шыі гальштук, які з'яўляецца часткай піянерскай формы, і пачала завязваць яго мне. Гэта быў яе падарунак. Я з цяжкасцю магу растлумачыць, што я адчуваў. У гэты момант я быў перапоўнены пачуццямі і сэрца было поўна любові да гэтай маленькай дзяўчынкі і да яе народа».

**С. Г.**

«Кожны момант, які я правяла са школьнікамі, запомніўся. Самым лепшым быў вечар у панядзелак, калі ў школе № 30 праходзіла дыскатэка. У вялікім крузе танцавалі савецкія і амерыканскія школьнікі. Пасярэдзіне — савецкі хлопец, які сапраўды быў цудоўным танцорам. Ён заўважыў мяне, выцягнуў у круг, і мы танцавалі. Я ніколі гэтага не забуду. Увесь астатні вечар я ў асноўным танцавала з ім».

**С. Т.**

«Хадзіць дамоў да школьнікаў».

**К.Ф.**

**— ШТО Б ВЫ ПАРАІЛІ ТЫМ, ХТО ЗБІРАЕЦЦА ПАЕХАЦЬ У САВЕЦКІ САЮЗ!**

«Едзьце з адкрытай душой! — вось мая парада тым, хто збіраецца ў Савецкі Саюз. Не чакайце, што людзі там моцна адрозніваюцца ад нас. Едзьце, і вы ўбачыце, наколькі яны выдатныя людзі».

**Ц. Р.**

«Апранайцеся цяплей».

**В. Х.**

«Едзьце без прадузятасці. Многія людзі ў нашай краіне вераць забабонам аб Савецкім Саюзе і яго народзе. Каб поўнасцю даведацца пра людзей, вам трэба адкінуць гэтыя забабоны і стэрэатыпы і зразумець, наколькі мы сапраўды падобныя. Калі вы прыедзеце з адкрытым сэрцам, вы даведаецеся значна больш, таму што вы зразумееце розніцу ў асноўных баках і спосабе жыцця. Яшчэ я параю вам з'есці порцый шэсць піццы перад паездкай, таму што яда можа здацца вам крыху не такой, да якой вы прывыклі».

**С. Г.**

«Трэба вывучаць народ і яго культурную спадчыну. Каб поўнасцю даведацца пра людзей, неабходна адмовіцца ад усіх існуючых прадузятасцей і стэрэатыпаў».

**Дж. Б.**

«Старайцеся сустракацца з людзьмі. Яны не суровыя і не грубыя, а дружалюбныя і вельмі падобныя на амерыканцаў».

**Д. М.**

«Бярыце з сабой больш плёнкі. Я гарантую, што вы яе ўсю скарыстаеце».

**Д. С.**

**— ШТО БОЛЬШ ЗА ЎСЁ СПАДАБАЛАСЯ ВАМ У ГЭТАЙ КРАІНЕ!**

«Мне спадабалася, колькі ўвагі ўдзяляюць усе савецкія людзі сваім традыцыям і культуры. Яны добра ведаюць сваю спадчыну і гісторыю. На мяне гэта зрабіла вялікае ўражанне».

**М. С.**

«Адкрытасць і шчырасць».

**Б. Х.**

«Людзі, вядома, людзі».

**М. С.**

«Размаўляючы з людзьмі, я зразумеў, што яны таксама, як і мы, хочуць міру на планеце. Гэта адзінае імкненне нашых народаў дае надзею, што ў будучыні мы зможам яго ажыццявіць».

**М. Б.**

«Культура, гордасць за гісторыю свайго народа. Мы адчувалі гэта ўсюды. Людзі вельмі ганарацца рэвалюцыяй і перамогай у другой сусветнай вайне».

**М. В.**

«Мне падабаецца тая гордасць, з якой савецкія людзі гавораць пра Вялікую Айчынную вайну. Мне б хацелася, каб амерыканскі народ гэтак жа добра адносіўся да сваіх ветэранаў, як гэта робяць савецкія людзі, і таксама помніў жахі вайны».

**Д. М.**

«Там менш злачынстваў і ўсе з адукацыяй».

**Д. Л.**

«Краіна дзівосна чыстая, і ва ўсіх людзей ёсць праца».

**Дж. М.**

**— ЦІ ТАКІЯ САВЕЦКІЯ ЛЮДЗІ, ЯК ВЫ ЧАКАЛІ!**

«Я чакаў, што да нас будуць добра адносіцца, але быў здзіўлены, наколькі добрымі і дружалюбнымі яны былі ў сапраўднасці. У школах у Мінску ўсе хацелі сустрэцца з намі. Яны проста падыходзілі і гаварылі: «Прывітанне!»

**С. М.**

«Людзі ёсць людзі, незалежна ад таго, на якой мове яны размаўляюць і ў што вераць».

**М. С.**

«Не, людзі аказаліся зусім не такімі, як я чакаў. Я ўяўляў халодных, цёмных і недружалюбных людзей, але неўзабаве пераканаўся, што яны ветлівыя, дружалюбныя і цярплівыя».

**М. Б.**

«У нас, амерыканцаў, многа прадузятасцей да савецкіх. Нашы сродкі інфармацыі ствараюць фальшывае ўяўленне аб іх. Калі я прыехаў, то думаў, што сустрэнуся з грубымі людзьмі, якія ненавідзяць амерыканцаў. А знайшоў людзей такіх жа, як і я. Я б хацеў, каб усе амерыканцы пабывалі ў СССР і сустрэліся з савецкімі людзьмі. Гэта б вырашыла многа сусветных праблем».

**Д. М.**

**— ШТО ДАЛА АСАБІСТА ВАМ ГЭТА ПАЕЗДКА!**

«Я даведаўся пра Савецкі Саюз многа такога, чаго не ведаў раней. Я думаў, што людзі жывуць у жудасных маленькіх кватэрах, што там няма ўласных дамоў. Сям'я, якую я наведваў, жыве ў выдатнай кватэры. Яна невялікая, але вельмі ўтульная. Яшчэ я думаў, што ім не падабаецца жыць у СССР і ўсе яны хочуць пакінуць яго. Гэта няпраўда».

**Ц. Д.**

«Мае вочы адкрыліся на астатнюю частку свету».

**Дж. С.**

«Мае погляды на Савецкі Саюз вельмі змяніліся. Цяпер я магу глядзець міжнародныя навіны і ведаць, што мае сябры на другім баку глобуса адчуваюць тое ж, што і я: ці гэта будзе радасць, смутак, страх, ці надзея, таму што яны хочуць таго ж, чаго і я. І цяпер я буду непакоіцца пра падзеі і старацца ўмешвацца ў іх, таму што гэта тычыцца маіх сяброў».

**М. В.**

**— ЯК, НА ВАШУ ДУМКУ, САВЕЦКІЯ ЛЮДЗІ ЎСПРЫМАЮЦЬ АМЕРЫКАНЦАЎ!**

«Мне здаецца, іх вельмі цікавяць амерыканцы. Яны разумеюць, што людзі аднолькавыя ўсюды. Адрозніваюцца толькі формы ўрада і грамадскія традыцыі».

**С. М.**

«Мне здаецца, яны разглядаюць нас, як нармальны народ, але з дзіўным урадам. Таксама, як я і думаў пра іх да сустрэчы. Але цяпер значна больш савецкіх людзей, дзякуючы нам, ведаюць амерыканцаў».

**Дж. Д.**

«Яны баяцца нас таксама, як і мы іх. Але з гэтым можна пакончыць з дапамогай такіх сустрэч. Трэба, каб яны былі больш частымі».

**Б. С.**

«Калі я ехаў у Савецкі Саюз, то думаў, што існуе татальная нянавісць паміж савецкім і амерыканскім народамі. Але пасля размовы з людзьмі, даведаўшыся пра іх меркаванні, я зрабіў вывад: савецкія людзі паважаюць амерыканцаў і тое, як мы жывём. Гэта павага ў іх ёсць, але ў той жа час яны зведваюць мала страху ад нашых дзеянняў у міжнародных адносінах. Яны не так баяцца амерыканцаў, як наша грамадства баіцца іх. Хаця я не згодны ва ўсім з імі, мне падабаюцца праграмы іх моладзі, накіраваныя на развіццё дружбы паміж народамі і мір».

**М. В.**

**— ЦІ ПАЕХАЛІ Б ВЫ ЗНОЎ!**

«Я б паехаў, але не адразу і не адзін. Нам патрэбны час ад часу людзі, якія абсалютна нас разумеюць. Цяпер мне патрэбна мая ўласная краіна».

**Дж. Д.**

«Я б зноў паехаў у Мінск, таму што адчуваю, што гэта важна. Гэта было адно з самых значных уражанняў у маім жыцці. Калі-небудзь я паеду».

**М. С.**

«Так, я палюбіў Мінск. Людзі цудоўныя, і горад вельмі прыгожы».

**Дж. С.**

«Я сабраўся б імгненна. Мне вельмі хацелася б зноў убачыць маіх шматлікіх сяброў і тое, які прагрэс робіць іх краіна».

**Р. К.**

«Калі-небудзь я спадзяюся вярнуцца ў Мінск. Калі мы сапраўды хочам міру ва ўсім свеце, тады добрыя адносіны амерыканскага і савецкага народаў з'яўляюцца неабходнасцю».

**М. Б.**

## ДМИТРИЙ ВОЛКОГОНОВ: «БЕЗ СТАЛИНА МЫ ДОБИЛИСЬ БЫ БОЛЬШЕГО»

# ОТВЕРГАЯ НАСЛЕДИЕ ЗЛА

**Известный советский ученый доктор исторических наук Дмитрий Волкогонов много лет посвятил изучению того, что принято называть «культ личности Сталина». Его исследования вылились в книгу «Триумф и трагедия», которая выходит в этом году в Издательстве Агентства печати Новости. С Дмитрием ВОЛКОГОНОВЫМ беседует корреспондент АПН.**

*— Был ли, по вашему мнению, неизбежен культ Сталина?*

— Я считаю, что не было такой неизбежности. Прежде всего, если бы на XIII съезде партии в 1924 году делегаты прислушались к мнению Ленина, высказанному в его «Письме к съезду», и переместили Сталина с поста генерального секретаря, уже этим можно было бы в значительной степени предотвратить возможные трагические последствия для нашей страны в 30-е и послевоенные годы.

*— Исследователи по-разному оценивают явление «культа личности», причины его возникновения. Какова ваша точка зрения?*

— Дело не только в негативных качествах Сталина. Для возникновения культа личности в то время был целый спектр причин. Каких же? Прежде всего, следует иметь в виду, что демократические основы, которые были заложены Лениным после революции, к сожалению, после его смерти не были развиты. Это самая глубинная причина появления всех культовых аномалий. Во-вторых, надо иметь в виду отсутствие в России глубоких демократических традиций. Сравнительно невысокая культура преобладавшего в России крестьянского населения создавала предпосылку для того, чтобы любая сильная личность получила поддержку широких масс. За многие столетия народ привык к единовластию в государстве. В-третьих, я бы отметил и то обстоятельство, что Сталин, который стал во главе партии и государства, исключительно умело использовал такой прием: свою борьбу с оппозицией, фракциями он представлял как борьбу за выбор пути социалистического строительства. Сталин взял на себя роль единственного толкователя ленинизма. Тот, кто был несогласен с ним, по его мнению, выступал против Ленина.

Сам же Сталин вроде бы не колебался ни вправо, ни влево, занимая, таким образом, весьма выгодную внешне позицию по сравнению с «инакомыслящими». Сталин расправился с ними, истолковав по-своему модель социализма.

*— Как вы относитесь к такому понятию, как сталинизм?*

— На мой взгляд, сталинизм — это извращенная теория и практика социализма. А Сталин стал символом этих извращений. Он создал у всех представление, что именно таким и должен быть социализм. Тем более, что на первых порах было немало сделано: земля перешла к крестьянам, которые ее обрабатывали, обобществлены предприятия, крупные мероприятия проведены в области культуры (скажем, борьба с неграмотностью). Однако не был создан демократический механизм власти. Я имею в виду ротацию, сменяемость, отчетность, жесткий контроль масс за деятельностью руководителя.

Надо сказать и об объективных обстоятельствах, сыгравших на руку возникновению культа.

Капиталистический мир смотрел с ненавистью на первое государство рабочих и крестьян. И это государство, которое не было еще сильным, вынуждено было постоянно заботиться о том, чтобы устоять, выжить в этом смятенном, сложном, быстро меняющемся мире. Нужно было создавать промышленность, армию, что в какой-то степени оправдывало централизацию, ограничение демократии. И Сталин в максимальной степени использовал эту постоянную угрозу для упрочения своей власти.

*— А какую роль сыграли личные качества Сталина?*

— Если бы кому-нибудь сказали в конце 1916 года — начале 1917, когда Сталин еще только собирался уезжать из сибирской ссылки, что он через 5—6 лет будет одним из первых лиц гигантского государства, то это посчитали бы шуткой. Потому что он, хотя и был членом Центрального Комитета партии большевиков с 1912 года, проявил себя не более как усердный исполнитель, волевой, настойчивый, но без собственных крупных идей.

Правда, Сталин активно проявил себя в гражданской войне. Он часто выезжал на различные фронты, выполняя задания, не останавливался перед расстрелами, перед уничтожением тех, кого он подозревал в контрреволюции. В общем, показал свою твердую руку. Это в какой-то степени уже тогда создало ему авторитет жесткого, твердого политика.

*— Как же все-таки случилось, что Сталин стал первым лицом?*

— В 1921 году было решено усовершенствовать деятельность секретариата ЦК, функции которого заключались в организации работы Политбюро и партийного аппарата, в контроле за выполнением решений. Возглавлял секретариат генеральный секретарь, и эта должность считалась скорее технической, организационной. Каменев рекомендовал на этот пост Сталина, который занял его в апреле 1922 года. Он очень быстро понял преимущества своего нового положения: в его руках оказался весь аппарат, кадры в центре и на местах.

Через девять месяцев Ленин заметил, что Сталин для этой должности не подходит. В известном «Письме к съезду» Ленин отметил грубость, жесткость Сталина — черты, недопустимые для людей такого уровня. К сожалению, худшие предположения Ленина сбылись.

Утвердившись после XVII съезда (1934 год) во главе партии и государства, Сталин стал вынашивать решение одним ударом освободиться от всех потенциальных соперников. Бухарин называл Сталина «великим дозировщиком»: он шел маленькими шажками к цели, не сразу развязал кровавый террор.

Страна в то время очень много строила, высоки были темпы прироста промышленной продукции. При таком экономическом размахе естественны и недостатки. Было, рушились заводы, вспыхивали пожары, сходили с рельсов поезда. Сталин же объявил это вредительством, происками врагов и шпионов.

К тому же он знал, что у него есть реальные оппоненты. Следил за тем, что говорил Троцкий за рубежом, который в ряде случаев занимался провокацией. Например, в вышедшей в 1936 году книге он прямо говорил, что вокруг Сталина есть много людей, недовольных им. Троцкий далее писал, что считает лозунг «Долой Сталина!» своевременным. Когда Сталин прочитал это уже в конце 1936 года, он был напуган. От природы он был чрезвычайно подозрителен, и у него созрел план одним ударом расправиться с потенциальными противниками: бывшими меньшевиками, бывшими оппозиционерами.

На февральско-мартовском Пленуме ЦК в 1937 году Сталин представил дело так, что все они хотят свергнуть Советскую власть. Тем самым был дан сигнал к массовым репрессиям.

По существу, Сталин вызвал инерцию социального насилия. Не только он, но и его окружение принимало решения о репрессиях. Была создана атмосфера всеобщего страха, подозрительности, доносов.

Лишь к середине 1939 года стал утихать кровавый террор. Остановил его не Сталин. Страна дошла до того предела, когда возникла угроза функционированию всей системы: и в промышленности, и в других областях, особенно в военной. Накануне войны армия оказалась практически обезглавленной...

Историки еще много раз будут обращаться к феномену «культа личности», к его причинам. Безусловно, главная из них — единовластие одного человека, отсутствие демократического механизма, законов, контроля со стороны народа. Сегодня мы отказываемся от того социализма, который был связан со сталинизмом. Конечно, мы не стоим на позиции отрицания всего того хорошего, что было. Честные люди создавали материально - техническую базу социализма, много сделано, достигнуты высоты культуры, мы одержали победу в войне. Но я говорю с полной убежденностью, что без Сталина мы добились бы большего.

**Вел беседу Андрей КУШНИР.**
(АПН).

---

**ПАРТИЙНЫЙ СЕКРЕТАРЬ НА ПОСТУ ПРЕДСЕДАТЕЛЯ СОВЕТА**

# ОТ СОМНЕНИЙ К НАДЕЖДЕ

ИСТОРИЯ с этим предложением, внесенным на XIX Всесоюзной партийной конференции Михаилом Горбачевым, звучит как сценарий остросюжетного политического фильма. Многих ее участников оно застигло, что называется, врасплох — в опубликованных за месяц до форума Тезисах Центрального Комитета КПСС, очертивших круг вопросов, которые должны были стать предметом обсуждения на конференции, такого вопроса не было. Первые выступления с возражениями были встречены аплодисментами зала и лидеру партии пришлось потом еще не раз брать слово, чтобы убедить делегатов в рациональности своей идеи. Но даже после этого по требованию ряда участников форума это его предложение было «вынуто» из пакета проектов решений конференции и поставлено на голосование отдельно — против него проголосовало 209 делегатов. Такого в новейшей советской истории еще не бывало...

Речь идет о предложении Генерального секретаря ЦК КПСС рекомендовать на вновь учреждаемые посты председателей Советов народных депутатов — органов государственной власти в СССР в центре и на местах, как правило, первых секретарей соответствующих территориальных партийных комитетов. Для многих эта идея оказалась действительно неожиданной и, казалось бы, идущей вразрез с нынешней линией на демократизацию советского общества. Какая же это демократизация, возмущались они, если вместо ожидаемого разделения функций партии и Советов нам предлагают «должностную унию», соединение партийного и государственного руководства в одних руках? Но затем, когда эмоции мало-помалу уступили место раздумьям, оказалось, что такая «уния» несет в себе большой демократический заряд и аргументы в ее пользу звучат достаточно весомо. Каковы же они?

Но прежде, чем ответить на этот вопрос, необходимы, мне кажется, хотя бы несколько слов о том, какими пришли Советы народных депутатов к сегодняшнему дню и что конкретно предусматривается для реального обеспечения их полновластия.

Итак, о нынешнем «статусе» Советов. Их место в политической системе страны «де-факто» определил сложившийся десятилетиями административно-командный механизм управления, при котором практически за все на местах отвечали партийные органы. Взвалив на себя всю ответственность за положение дел, эти органы вольно или невольно, пусть неофициально, узурпировали и главные распорядительные права, тогда как Советам оставалось только «визировать» их указания, придавая им силу государственного решения. В этих условиях, по оценке специалиста в области права Бориса Курашвили, Советы по существу превратились лишь в институт поддержки и одобрения партийных решений.

Как вернуть Советам изначально принадлежавшее им полновластие — этот вопрос стал одним из ключевых в вынесенной на обсуждение конференции и принятой ею программе реформы политической системы СССР. Главное в реформе — прекращение непосредственного партийного управления всеми текущими экономическими, социальными и культурными делами, «уход» партийных органов в их собственную сферу — идеологическую и политическую работу.

Вместе с тем было бы наивным предполагать, что правящая в стране партия может отказаться от своего права на влияние при разработке и принятии наиболее важных государственных решений на местах. Вопрос в другом: как добиться такого влияния не административно-командным, а демократическим путем? Такую возможность как раз и открывает, в частности, идея совмещения должностей первого секретаря территориального партийного комитета с главой соответствующего Совета народных депутатов. В этом случае партийный лидер действительно получает возможность в какой-то мере влиять на решение Совета, но лишь при условии доверия к нему населения (иначе он просто не сможет занять свой двуединый пост) и если выдвигаемые им инициативы получат поддержку большинства депутатов.

К тому же такое совмещение необходимо рассматривать в контексте глубоких изменений, которые предусматриваются в СССР политической реформой. Имеется в виду, во-первых, введение конкурсности при выборах в Советы, когда на каждое место в них будут баллотироваться по нескольку кандидатов в депутаты. Это позволит населению проводить в каждый Совет наиболее авторитетных и принципиальных своих представителей, таких, которыми не покомандуешь. Кроме того, принято решение, что руководители управленческих органов, подотчетных Совету, не могут одновременно быть его депутатами и что ни одно лицо не может занимать выборные должности больше, чем два срока подряд.

Во-вторых, часть депутатов теперь будет периодически освобождаться от своих непосредственных служебных или производственных обязанностей для работы в Совете, его комиссиях, в избирательных округах. Тем самым делается шаг к постоянному функционированию Советов.

В-третьих, реформа предусматривает создание в районных, городских и областных Советах депутатских президиумов, основной задачей которых станет контроль за деятельностью аппарата управления и за исполнением принятых Советом решений.

И наконец, в-четвертых, значительно расширяются экономические права местных Советов. Они получают свои нормативные источники доходов, в их ведение передаются все предприятия, чья продукция потребляется местным населением.

Не правда ли, с учетом этих новаций идея «совмещения постов» выглядит куда демократичнее, чем если бы она вписывалась в старую, пока действующую систему власти?

По преобладающим сегодня в обществе оценкам, от такого совмещения должны выиграть и Советы, и партия, а самое главное — широкие массы населения. Каким образом? Начнем с Советов. В лице своего председателя — первого секретаря территориального партийного комитета они получают избранного демократическим путем авторитетного лидера. В нынешних условиях это будет способствовать приведению в соответствие формальных и реальных полномочий Советов, повышению их «удельного веса» и значимости в глазах населения.

Что же касается КПСС, то процедура избрания первого территориального партийного руководителя на пост председателя Совета даст ей объективное представление о реальном влиянии в народе и о фактическом авторитете у населения тех или иных ее лидеров. Неизбежно повысятся требования коммунистов к своим «первым», поскольку придется учитывать, «вытянут» ли эти люди не только партийные дела, но и борьбу за демократический мандат в ходе соревнования с другими кандидатами на выборах в Советы.

В свою очередь население, особенно беспартийная его часть, впервые получит механизм влияния на свой авангард, точнее — на партийный аппарат и его руководителей. Ведь если «первый» провалится на выборах, партийной организации придется менять и его самого, и в какой-то мере сформированный им аппарат. Так решение, казалось бы, внутрипартийных вопросов оказывается под контролем широких масс беспартийных избирателей.

**Валерий ТЕЛЕГИН.**

## У КРАКАВЕ АДКРЫТЫ ПОМНІК АЛЕСЮ ГАРУНУ

# ЖМЕНЬКА ЗЯМЛІ НА ДАРАГУЮ МАГІЛУ

Творчасць Алеся Гаруна — аўтара паэтычнага зборніка «Матчын дар», апавяданняў, п'ес для дзяцей, публіцыстычных артыкулаў, — з'ява незвычайная ў гісторыі беларускай літаратуры і культуры. Нікому з нашых пісьменнікаў пачатку XX стагоддзя не выпаў на долю такі трагічны лёс. У сакавіку 1907 года яго арыштавалі ў падпольнай друкарні ў Мінску. Астрог, катарга, пасяленне ў Сібіры забралі ў яго 10 гадоў жыцця. І ўсё гэта яшчэ ў такім маладым узросце, калі наперадзе магла быць безліч дарог. Ён выбраў адну — найбольш небяспечную, але, як яму ўяўлялася, найбольш важную — дарогу рэвалюцыйнай барацьбы з самадзяржаўным дэспатызмам, з сацыяльнай несправядлівасцю. Аднак хутка за ім замкнуліся дзверы астрога і адгарадзілі яго ад свету, ад жыцця, ад родных і паплечнікаў.

20 гадоў было яму, калі застаўся ён адзін на адзін з мурамі, што яго акружалі, і пільнай астрожнай вартай. Але таксама і са сваімі думкамі, якія тут, у зняволенні, сталі пераліваца, як пісаў ён сам, у «радкі звінючых слоў». Адтуль ужо яго песні ляцелі на волю — да родных, блізкіх, да свайго народа, якому паэт, знайшоўшы сваё прызванне, пасылаў словы праўды, словы веры, надзеі, любові, пасылаў праклёны ворагам, прыгнятальнікам, крыўдзіцелям.

Ні катарга, ні пасяленне ў Сібіры не зламалі Алеся Гаруна маральна. Затое ж яны абвастрылі пачуццё суму па радзіме, духоўнай еднасці з родным народам, з роднай зямлёй, ад якой ён амаль усё сваё свядомае жыццё быў адарваны. Кожны верш паэта, напісаны ў Сібіры,— гэта водгулле пакуты, але і сімвал веры, споведзь і скарга выгнанніка, і сведчанне нязломнай, непахіснай вытрымкі.

Па матывах і тэматыцы паэзія Гаруна блізкая да паэзіі Купалы і Коласа. У яго такое ж неадольнае жаданне лепшай долі для народа, такая ж непрымірымасць да несправядлівасці, гатоўнасць ахвяраваць сабой для шчасця бацькоўскай зямлі, для людзей. І толькі больш абвостраны сум па радзіме, па волі, якой ён быў пазбаўлены столькі гадоў.

Алесь Гарун увайшоў у беларускую літаратуру і як выдатны празаік. У апавяданнях пісьменніка мы знаходзім і трывожную праблему нацыянальнага бяспраўя беларусаў у дакастрычніцкі час («Пан Шабуневіч»), і тое, як астрожнае жыццё калечыць лёс чалавека, шкодна ўздзейнічае на яго псіхіку («Чалавек без крыві», «Маладое»), ёсць і каларытныя сцэнкі жыцця беларускага пасяленца ў Сібіры — былога палітычнага зняволенага («Свята»), і незвычайны прыём ацэнкі найскладанейшых праблем рэчаіснасці ў пераломную эпоху («У Панасавым сяле»).

Адметны талент Алеся Гаруна паспеў праявіцца не толькі ў паэзіі і прозе, але і ў драматургіі, і ў публіцыстыцы. У 1920 годзе ён апублікаваў зборнік «Жывыя казкі», куды ўвайшлі тры п'ескі для дзіцячага тэатра: «Хлопчык у лесе», «Шчаслівы чырвонец» і «Дзіўны лапаць, або Не ўсё тое порах, што ў пораху ляжыць».

Усёй сваёй творчасцю пісьменнік дае новым пакаленням жывыя ўрокі мужнасці і патрыятызму, паказвае, як трэба берагчы і славіць бацькоўскую зямлю і матчыну мову. Ён выносіць няшчадны прысуд здрадлівасці, прыстасавванству, сацыяльнай несправядлівасці, чалавечай няпраўдзе і фальшу. Сваім мастацкім словам ён, не стамляючыся, будзіў чалавечае сумленне і праведны гнеў супраць усяго заганнага ў жыцці.

Пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі ў 1917 годзе пісьменнік, ужо хворы на сухоты, вярнуўся ў родны Мінск, дзе шырока разгарнулася яго літаратурная і грамадская дзейнасць. Але цяжкая хвароба забірала апошнія яго сілы. Зборнік п'ес для дзяцей «Жывыя казкі» ён пісаў, па сутнасці, прыкаваны да пасцелі.

Летам 1920 года Алеся Гаруна, зусім хворага і бездапаможнага, завезлі санітарным поездам у Кракаў, дзе ён у ліпені месяцы памёр.

З дня яго смерці прайшло шмат гадоў. А яго магіла на Ракавіцкіх могілках у Кракаве, забытая ўсімі, з цягам часу згубілася. Але вось некалькі гадоў таму назад малады асістэнт Кракаўскага універсітэта Алег Латышонак, беларус з Беласточчыны, адшукаў яе. Ён разам з бацькам Юрыем, інжынерам з Супраслі, што каля Беластока, праявілі ініцыятыву па ўшанаванні памяці Алеся Гаруна. У справу энергічна ўключылася Беларускае грамадска-культурнае таварыства (БГКТ) у Беластоку, на долю якога выпала вялікая арганізацыйная работа.

Давялося перш за ўсё юрыдычна забяспечыць захаванне магілы, атрымаць дазвол на пабудову помніка, арганізаваць збор сродкаў для гэтай мэты. А потым настала чарга зрабіць праект, знайсці майстроў, ды і сам матэрыял. Грошы збіраліся не толькі на Беласточчыне, але і за мяжой. Знайшлі вялізны камень-валун, з якога атрымалася тое, што мастак задумаў. І пераехаў гэты помнік за многія сотні кіламетраў да месца свайго прызначэння.

Урачыстае адкрыццё яго было назначана на 11 гадзін раніцы 24 верасня. Беластоцкая газета «Ніва» неаднаразова паведамляла сваім чытачам пра набліжэнне гэтай падзеі, каб кожны, хто меў жаданне і магчымасць, загадзя рыхтаваўся да паездкі ў Кракаў.

24-га верасня ў 2 гадзіны ночы з Беластока адправіўся ў Кракаў вялікі аўтобус з актывам Беларускага грамадска-культурнага таварыства, з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці беларускіх ліцэяў у Гайнаўцы і ў Бельску на Беласточчыне. Разам з імі ехалі прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Савецкай Беларусі Васіль Зуёнак і аўтар гэтых радкоў.

Цэлых дзевяць гадзін працягвалася падарожжа. Па радыё амаль увесь час перадавалі рэпартажы са спартыўнай Алімпіяды ў Сеуле. Але мне яны толькі перашкаджалі думаць пра тое, дзеля чаго мы рабілі такое незвычайнае падарожжа. Мы ехалі ўшаноўваць светлую памяць чалавека, які ўсяго сябе прысвяціў сваёй краіне, народу. І пакінуў у спадчыну не[illegible]ручае мастацкае слова, якое жыве і будзе жыць, пакуль будзе жыць беларуская мова.

Калі мы прыбылі ў Кракаў, на могілках ужо чакала вялікая група людзей, у тым ліку з Гродна, з Лондана (перакладчыца беларускай літаратуры Вера Рыч) і нават з Аўстраліі (беларус Міхаіл Лужынскі, пра якога я дагэтуль ніколі не чуў).

Амаль у 11 гадзін (на некалькі мінут мы ўсё ж такі спазніліся са сваім аўтобусам) старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства, загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Аляксандр Баршчэўскі (Алесь Барскі), вядомы беларускі паэт і публіцыст, адкрыў урачыстасць уступным словам. Добра ён сказаў пра заслугі песняра, пра яго пакутлівы шлях ды яшчэ пра тое, што яго спадчына займае сёння належнае ёй месца ў гісторыі нашай культуры і літаратуры.

Потым прысутныя праслухалі выступленне юнакоў і дзяўчат з беларускіх ліцэяў. Яны дэкламавалі вершы Алеся Гаруна са зборніка «Матчын дар» і выканалі некалькі беларускіх песень. А праз нейкі час яны ўступілі месца тым, хто меў жаданне сказаць сваё слова пра Алеся Гаруна. Першым звярнуўся да прысутных Алег Латышонак, які нагадаў гісторыю пошукаў магілы і пабудовы помніка.

Наогул жа ніхто тут не кіраваў урачыстасцю, не даваў слова каму-небудзь, а кожны, хто хацеў, сам падыходзіў да магілы і дзяліўся сваімі думкамі, пачуццямі і ўражаннямі. Следам за Латышонкам выступіў я. Разам з паклонам ад беларускіх пісьменнікаў я прывёз туды жменьку зямлі з Мінска, з таго горада, у якім Алесь Гарун у 1887 годзе пабачыў свет. Пасля ўжо слова ўзялі Міхаіл Лужынскі з Аўстраліі і беларускі паэт з Беласточчыны Віктар Швед. І зноў пачалася мастацкая праграма. Тут жа Вера Рыч прачытала адзін верш паэта ў перакладзе на англійскую мову.

Словы шчырай падзякі арганізатарам урачыстасці выказалі беларускія савецкія пісьменнікі Васіль Зуёнак з Мінска і Аляксей Пяткевіч, дацэнт Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. А Данута Бічэль-Загнетава, беларуская паэтэса з Гродна, звязала дзейнасць Алеся Гаруна з барацьбой яго папярэднікаў і прачытала свой верш, прысвечаны Кастусю Каліноўскаму.

Хаця ў вышэйшых навучальных установах Польскай Народнай Рэспублікі навучальны год яшчэ не пачынаўся, але прысутнічалі там і студэнты. Памяць Алеся Гаруна ўшанаваў усхваляваным словам Кастусь Сідаровіч, найстарэйшы ўдзельнік урачыстасці, колішні член Беларускай сялянска-рабочай грамады перыяду 20-х гадоў.

Выступілі і прадстаўнікі польскай грамадскасці. У гонар Алеся Гаруна і беларускай культуры прагучала на кракаўскіх могілках і блізкая ўсім прысутным польская мова.

Уся ўрачыстасць працягвалася амаль тры гадзіны. Сонца, як па заказу, ласкава прыгравала, асвятляла магілу, прыбраную жывымі кветкамі і ўсеяную малымі каганцамі з трапяткімі агеньчыкамі. А прысутныя доўга не разыходзіліся, разглядаючы помнік з надпісамі на беларускай і польскай мовах:

**АЛЕСЬ ГАРУН**
**АЛЯКСАНДР ПРУШЫНСКІ**
**11.III.1887 — 20.VII.1920**
**БЕЛАРУСКІ ПАЭТ**
**РЭВАЛЮЦЫЙНЫ**
**І НЕЗАЛЕЖНІЦКІ**
**ДЗЕЯЧ**
**СУРОДЗІЧЫ**

Не хацелася развітвацца з гэтай магілай, і горка было ад усведамлення таго, што Алесь Гарун знайшоў свой вечны спачын не на роднай зямлі, за якую аддаў сваё жыццё, а так далёка, хоць і на зямлі братняга і добразычлівага нам народа.

Зусім не адчувалася, што на могілках сабраліся прадстаўнікі розных краін, людзі з рознымі перакананнямі. Усіх аб'ядноўвала пачуццё адданасці ці проста сімпатыі і да песняра, і да беларускай культуры наогул.

У час усёй урачыстасці асабліва выразна адчувалася, што Алесь Гарун — гэта не толькі наша гісторыя. Ён і сённяшняму пакаленню падказвае прыклады самаахвярнасці, непахіснасці, нязломнасці, сапраўднага патрыятызму. І ў той момант, як ніколі, усведамлялася, што мы сёння памяць Алеся Гаруна найлепш ушануем сваімі справамі, сваім клопатам пра родную культуру, мову, гісторыю, родную зямлю. Гэтыя справы, гэты клопат і непачаты край работы ёсць і ў нас, ёсць і на Беласточчыне, дзе нашы сябры і суродзічы разгортваюць надзвычай актыўную і шырокую дзейнасць.

Кіраўніцтва Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку мае на сваім рахунку добрыя здзяйсненні, якімі можа ганарыцца. Гэта не толькі ўшанаванне памяці Алеся Гаруна, але і будаўніцтва Беларускага этнаграфічнага музея ў Гайнаўцы каля Белавежы, што разгортваецца шырокім фронтам за кошт добраахвотных узносаў жыхароў Беласточчыны і прыхільнікаў беларушчыны з-за мяжы. Гэта і правядзенне ў канцы чэрвеня бягучага года міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай беларуска-польскім культурным і літаратурным сувязям. А нагодай для яе паслужыла 30-годдзе літаратурнага аб'яднання «Белавежа», што існуе пры БГКТ. У ёй з замежных гасцей прынялі ўдзел прадстаўнікі Савецкай Беларусі Барыс Сачанка, Серафім Андраюк, Аляксей Пяткевіч і аўтар гэтых радкоў. Прыехалі дэлегаты і са Злучаных Штатаў Амерыкі — Томас Бэрд і Мікола Заморскі. Той самы Заморскі, які сам ахвяраваў некалькі сот долараў на будаўніцтва музея ў Гайнаўцы ды і сабраў значную суму сярод сваіх землякоў. Ён і словам, і справай даказаў сваю шчырую прыхільнасць беларускай культуры.

Урачыстасць, якая адбылася на Ракавіцкіх могілках у Кракаве, наглядна паказала, што ў беларускім асяроддзі на Беласточчыне ёсць каму клапаціцца аб беларускай нацыянальнай культуры, ушаноўваць належным чынам памяць дзеячаў мінулых эпох. А творчасць і лёс Алеся Гаруна засведчылі, што сапраўдны патрыятызм і самаахвярнасць непазбежна недзе адгукнуцца добрымі справамі. Зерні праўды, пасеяныя клапатлівай рукой, рана ці позна прарастуць, дадуць свой плён, кагосьці ўзбагацяць маральна і духоўна, якім бы падчас неласкавым ні аказаўся лёс для саміх сейбітаў.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**





**НА ЗДЫМКАХ: В. ЗУЁНАК і У. КАЗБЯРУК ля помніка беларускаму паэту ў Кракаве; кветкі ад удзячных нашчадкаў.**

*ЗНЯТА ВЕТА З «ЗААКІЯНСКАЙ МУЗЫКІ»*

# САВЕЦКІ СТЫЛЬ ДЖАЗА

Да пачатку 80-х гадоў савецкі джаз для заходняга назіральніка ўяўляў, па сутнасці, «тэра інкогніта». Для таго каб пачуць яго ў той час, трэба было альбо ехаць у Расію, альбо пабываць на адным з фестываляў ва Усходняй Еўропе — пачынаючы з сярэдзіны 60-х гадоў савецкія джазавыя групы рэгулярна з'яўляліся на сцэнах Прагі, Варшавы, Будапешта, Любляны. Толькі ў кастрычніку 1980 года ў рамках «Берлінскіх джазавых дзён» (Заходні Берлін) упершыню выступілі два савецкія саставы—авангардысцкае трыо Вячаслава Ганеліна з Вільнюса і джаз-рокавы «Арсенал» з Масквы. Неўзабаве савецкі джаз з'явіўся ў ФРГ, Італіі, Францыі, Англіі, Скандынавіі, Галандыі і іншых заходніх краінах. У 1986 годзе трыо Ганеліна, а праз год—«Ленінградскі дыксіленд» гастралявалі па Злучаных Штатах. Водгукі прэсы супярэчлівыя, але пераважаў тон захаплення, павагі, здзіўлення.

* * *

Доўгі час джаз амаль не гучаў у дзяржаўных канцэртных арганізацыях Савецкай краіны. Адбіваліся гады прадузятай думкі супраць «заакіянскай музыкі». Акрамя таго, работнікі філармоній лічылі джаз элітарнай музыкай і сумняваліся, ці будуць яго канцэрты эканамічна рэнтабельнымі. Сітуацыя рэзка змянілася ў 1975—1978 гадах. Філармоніі зразумелі, што ў джаза ёсць свая публіка, што джаз — гэта асаблівае мастацтва са сваімі законамі і традыцыямі. У джаз паверылі, сталі наладжваць яго фестывалі, пасылаць савецкіх музыкантаў за мяжу.

Толькі ў 1987 годзе ў СССР адбылося каля трыццаці фестываляў джаза. Сярод іх — «Тыдзень джазавых піяністаў» (Мінск), два фестывалі ў Віцебску — традыцыйных саставаў (вясной) і сучаснага джаза (восенню), фестывалі ў Сібіры (Барнаул, Хабараўск, Абакан, Краснаярск), Казахстане (Кустанай), «Фестываль біг-бэндаў» у Растове-на-Доне, «Рытмы лета» ў Рызе, фестываль студэнцкага джаза ў Таліне. Буйныя фестывалі прайшлі ў Баку і ў Архангельску, Данецку, Днепрапятроўску, Казані і, нарэшце, — «Восеньскія рытмы-87» у Ленінградзе з удзелам гасцей з Польшчы, ГДР, ЧССР, Швецыі і Фінляндыі. У 1987 годзе не было фестываляў у Маскве і Тбілісі (яны праводзяцца па цотных гадах). У праграмах 1988 года запланаваны ўдзел гасцей як з Усходу, так і з Захаду, уключаючы такія імёны, як Білі Тэйлар, чэхаславацкі дуэт Рудольф Дашак і Іржы Сцінін, польскі спявак Станіслаў Сойка і нарвежскі саксафаніст Ян Гарбарак.

Практычна ў любым савецкім горадзе існуе некалькі джазавых калектываў. Але тут варта выдзеліць некалькі рэгіянальных цэнтраў джаза. Найбольш прыкметны — Масква. Пераважна «маскоўскія» стылі джаза — гэта мейнстрым і бібоп (ці хард-боп). Тут пагоду робяць біг-бэнды Алега Лундстрэма і Анатоля Крола, джазавыя групы «Алегра» піяніста Мікалая Левіноўскага і «Каданс» Германа Лук'янава, група Ігара Брыля, трыо гітарыста Аляксея Кузняцова, ансамблі саксафаністаў Уладзіміра Канавальцава і Віталія Кляйнота, піяністы-салісты Леанід Чыжык і Міхаіл Альперын. Іх стыль — «залатая сярэдзіна» джаза: меладычная яркасць, імправізацыя, рытмічная пругкасць. Але свет кожнага музыканта свой.

Напрыклад, Лук'янаў працуе ў духу «прахалоднага джаза». Яго можна было б назваць музычным канструктывістам: логіка формы, яе стройнасць для яго пачатак пачаткаў. Гэта музыка пругкая, дынамічная, але не гарачая. Яна выразная, эмацыянальная, часам — па-руску распеўная, нетаропкая. Толькі эмацыянальнасць гэта асаблівая. Яна не на паверхні, яна патрабуе ад слухача сустрэчных намаганняў...

«Алегра» ідзе ад мадальнага джаза, ад распрацоўкі фальклорных мелодый і напеваў, свірэльных найгрышаў і народных танцавальных рытмаў да паглыблення мыслення, да імкнення адысці ад прывычнай джазавай схемы «тэма — імправізацыя — тэма». Сённяшнія кампазіцыі Левіноўскага — род гукавых мазаік ці сюіт, разгорнутых у часе, якія валодаюць унутранай драматургіяй. У апошні год «Алегра» стаў уключаць у свае праграмы элементы блюза, рока і ф'южн: ён шу[illegible] кантакт з моладдзю.

Падобную цягу да кампазіцыйнасці зведвае і Ігар Брыль, адзін з найбольш «паэмных», рамантычных джазавых піяністаў. Зрэшты, гэта і адзін з найбольш актыўных музыкантаў «Джэм-сешн», с[illegible]нных джазавых спаборніцтв[illegible] Музыкант, у любы момант гатовы іграць з кім хочаш і ў якім хочаш стылі.

Леанід Чыжык, які пачынаў у якасці лідэра класічнага трыо (раяль, кантрабас і ўдарныя), у апошнія гады выступае толькі як саліст, ён імкнецца выйсці на глыбокую ваду «абсалютнай імправізацыі», каб не быць скаваным ніякай загадзя адрэпеціраванай схемай... Яго цяперашнюю манеру можна назваць полістылістычнай: рамантычныя напеўныя тэмы — і рваная, вуглаватая фактура «фры-джаза», танальнасць і атанальнасць, сплаў элементаў фальклору, класікі, джаза, лацінаамерыканскіх рытмаў.

Калі вядучая формула Масквы «мейнстрым-боп», то ў Ленінградзе варта дадаць слова «дыксі», і тады атрымаецца «мейнстрым-дыксі-боп». Вядучымі групамі горада можна назваць ансамбль мульці - інструменталіста Давіда Галашчокіна (скрыпка, флюгельгорн, саксафон, раяль), квартэт саксафаніста Міхаіла Касцюшкіна і трыо віртуоза-гітарыста Аляксандра Старасценкі. Традыцыя класічнага свінга трыццатых гадоў прадстаўлена актэтам «Неўская васьмёрка». У горадзе нямала дыксілендаў, але галоўная роля належыць «Ленінградскаму дыксіленду» саксафаніста Алега Кувайцава, а таксама ансамблю трамбаніста Аляксандра Пятрова «Гамаджаз».

Сярод джазавых груп Прыбалтыкі тон задаюць сёння літоўскія музыканты. У адрозненне ад традыцыйных у Маскве і Ленінградзе, у Вільнюсе дамінуюць ансамблі, блізкія авангарду. Заслуга ў распаўсюджанні такой цяжкай для масавага слухача музыкі належыць, безумоўна, трыо ў складзе Вячаслаў Ганелін (раяль, электронныя клавішныя), Уладзімір Тарасаў (ударныя, перкашн) і Уладзімір Чакасін (кларнет, саксафоны, свірэлі, электронныя клавішныя). Два найбольш вядомыя джазмены Латвіі — трубач Гунар Розенберг і тэнар-саксафаніст Райманд Раубішка — шырока адукаваныя музыканты, якія іграюць як разам, у квінтэце (у стылі хард-боп), так і з уласнымі групамі. Адзначым і ўзнікшае год назад трыо «Дыскамфорт», якім кіруе гітарыст Эрык Балодзіс. Ён спалучае элементы танальнага і «свабоднага» джаза, рытмы рока і панка са сцэнічнай тэатралізацыяй. Вядучымі музыкантамі Эстоніі з'яўляюцца ў апошнія гады піяніст Тыну Найсоа, які працягвае «фалькларызацыю» джаза, пачатую яшчэ яго бацькам, вядомым кампазітарам, піяністам, кантрабасістам і валтарністам Уна Найсоа, і тэнар-саксафаніст Лембіт Саарсалу, які выступае ў дуэце з піяністам з рускага горада Курска Леанідам Вінцкевічам.

Вялікую групу савецкіх музыкантаў прадстаўляе Закаўказзе. У іх ліку найперш назаву нябожчыка, на жаль, бакінскага піяніста Вагіфа Мустафа-задэ. Ён першым у гэтым рэгіёне змог дабіцца арганічнага сплаву нацыянальнай музычнай традыцыі з мовай джаза. Разам з прамым цытаваннем народных мелодый ён уводзіў у сваю музыку народныя лады, прымяняў арнаменты, росчыркі, тыповыя для народных спевакоў-ашугаў, як бы пераводзячы іх узоры з голасу ці шчыпковых інструментаў на фартэпіяна. Буйнейшая фігура сярод грузінскіх джазменаў—кантрабасіст і кіраўнік ансамбля Тамаз Курашвілі, у Арменіі найбольш папулярная фігура—спявачка Татэвік Аганесян. Ёсць свой твар і ў груп, якія прадстаўляюць Казахстан, Сярэднюю Азію і Сібір.

* * *

Чвэрць стагоддзя назад амерыканец Леанард Фэзер (аўтар «Энцыклапедыі джаза»), пачуўшы маладых савецкіх джазменаў, пажартаваў у адным са сваіх артыкулаў: «Пасля дыксіленда, свінга, бопа і кула ці не будзе наступны стыль джаза называцца «савецкім»?» Фраза эфектная, чыста амерыканская. Але цяпер можна з упэўненасцю гаварыць, што ўклад савецкіх музыкантаў у гэты жанр адчувальны. І гэта ўжо без усялякіх жартаў.

**Аркадзь ПЯТРОЎ,**
**музыказнавец.**

## З АПОШНІХ ВЕРНІСАЖАЎ







**Тры персанальныя выстаўкі адбыліся ў залах мінскага Палаца мастацтва. Іх аўтары — сталічныя мастакі У. Уродніч, У. Гардзеенка і Л. Дударанка.**

**У. Гардзеенка пачынаў свой творчы шлях як тэатральны мастак. Цяпер працуе ў станковым жывапісе, пераважна ў жанрах сюжэтна-тэматычнай карціны, лірычнага пейзажа і кампазіцыйнага партрэта. Звяртаючыся да гісторыі беларускага народа, стварыў палотны «Фрунзе ў Мінску ў 1917 годзе», «Дыялог аб Беларусі», «Чарвякоў на прыёме ў Леніна». Апошнія гады працуе і ў графіцы.**

**У творчасці Уладзіміра Уродніча значнае месца займае ваенна-патрыятычная тэма. Аднак выстаўка яго складаецца ў аснове з работ, прысвечаных роднаму Палессю. Дзесяткі краявідаў, напісаных майстрам у розную пару года, расказваюць пра першазданную прыгажосць і непаўторнасць гэтага краю, пра мужных і працавітых людзей, якія вынеслі на сваіх плячах суровыя выпрабаванні.**

**Л. Дударанка шырока вядомы публіцы як партрэтыст. У яго партрэтнай галерэі — прадстаўнікі многіх прафесій: пісьменнікі і механізатары, лётчыкі і вучоныя.**

**НА ЗДЫМКАХ: У. ГАРДЗЕЕНКА. «Фрунзе ў Мінску ў 1917 г.»; Л. ДУДАРАНКА. «Юлія і Алесь»; У. УРОДНІЧ. «Ранішняя цішыня».**

## ЖЫЎ-БЫЎ ГАЎРЫЛА...

«Не адзін Гаўрыла ў Полацку», — сцвярджае жартаўлівая прымаўка, якая даўно бытуе ў Прыдзвінні. Не трэба, маўляў, высоўвацца, брат, прэтэндаваць на выключнасць, арыгінальнасць.

Свайго, самабытнага і непаўторнага Гаўрылу адшукалі для прэм'ернага спектакля ў новым сезоне маладыя артысты лялечнай трупы пры Беларускім дзяржаўным акадэмічным драмтэатры імя Якуба Коласа. «Сказ пра Гаўрылу з Полацка» пакарыў гледачоў вострым словам і трапнай прымаўкай, займальнай інтрыгай.

Новая работа малодшых коласаўцаў — шостая па ліку за два гады існавання лялечнага тэатра, вынік творчай садружнасці пачынаючага віцебскага драматурга Пятра Сіняўскага, рэжысёра Віктара Клімчука, кампазітара Алега Залётнева, мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Аляксандра Салаўёва і харэографа, народнага артыста рэспублікі Віктара Саркісьяна.

**К. СЕВЯРЫНЕЦ.**

НАШЫ ЗАХАПЛЕННІ

# ІВАН СЯНЮТА— КАЛГАСНЫ МАСТАК



Дарога з Іванава шырокай стужкай праразае псышчаўскі лес. За акном нашай машыны праплываюць меднастволыя стромкія хвоі, маладняк, яркімі маланкамі ўспыхваюць бярозавыя ствалы. І раптам пры самым выездзе з лесу, як цудоўнае дапаўненне да мясцовага пейзажу, бачу выгнуты аркай масток цераз дарожны адхон на невысокі пагорачак. Змайстраваны з тых жа бярозавых абрубкаў, быццам пабелены, ён прыцягвае ўвагу здалёк. Так і хочацца прайсціся па яго насцілу, пастаяць, абапёршыся локцем на парэнчы, адпачыць.

Спыняем машыну. Аглядаем наваколле. Аказваецца, масток — толькі першы, хаця і найбольш кідкі, элемент афармлення ўезду на тэрыторыю мясцовага калгаса «За мір». Пераходзім яго — і вочы ў вочы сустракаемся з дзвюма драўлянымі скульптурамі. Выразаныя з тоўстых ствалоў воіны ў старадаўніх «шаломах», здаецца, навечна застылі на сваім пасту, на варце міру і спакою. Позіркі сурова-тужлівыя. Чаму разьбяр прыдаў ім такі выраз, разумееш, прачытаўшы даты, абазначаныя на ніжняй частцы скульптуры: 1812, 1945... Гэта напамін аб тых часінах, калі наш народ змагаўся і перамог чужынцаў-захопнікаў.

Тут — перакрыжаванне дарог. Паказальнік на ім — яшчэ адзін твор мастацтва. На Іванава, напрыклад, паказвае шыльдачка, якая завяршаецца па-майстэрску выразанай качкай у палёце. На Упірава — імклівы заяц. І не проста слупкі трымаюць іх. На адным — сімвал мудрасці: задумалася сава, на другім — нейкая фантастычная птушка.

Хаджу, любуюся. І карціць даведацца, хто ж аўтар гэтых твораў, пазнаёміцца з ім.

— Сянюта, — адказвае на маё пытанне прахожы. — Іван, наш мясцовы, калгасны мастак.

Іван Сянюта?! Дык я яго добра ведаю. Але толькі як мастака-пейзажыста, партрэтыста. А тут — разьба па дрэву. Пра такую грань таленту гэтага чалавека я пакуль нават не здагадваўся.

І вось я ў хаце Сянюты, гутару з гаспадаром. Цікаўлюся, як і калі ён пачаў займацца новай для сябе справай. На Іванавым твары сціплая ўсмешка. Гэта практычна першыя яго творы, таму і не лічыць іх вартымі асаблівай увагі. Вось каб вольнага часу больш: ёсць некаторыя задумы па афармленні ў лесе мясцін адпачынку, ды і вясковыя вуліцы варта было б упрыгожыць.

Іван Іванавіч запрашае ў пакой. Зайшоў я і спыніўся ў парозе. Не магу адарваць позірк ад цудоўных пейзажаў. Тут іх цэлая галерэя: і лета, і зіма, і вясна, і восень. Кожны свецяцца настрое сонцам. Вось высокая хво над рэчкай. Аблачынкі плывуць па блакіце неба, адлюстроўваюцца ў празрыстай вадзе.

А на гэтым палатне зімовы дзень у ззянні сняжынак, марознай сінечы доўгіх ценяў.

Пераходзім у і пакой. Характар жывапісу ,ут іншы. Асабіста для сябе Сянюта зрабіў некалькі копій твораў вялікіх мастакоў. Вось вядомая карціна Брулова «Італьянскі поўдзень. 1827». Выкананая ў натуральную велічыню, яна ўражвае майстэрствам, дакладным і тонкім. Бясконца можна было б любавацца копіяй славутай «Джаконды» Леанарда да Вінчы. А побач яшчэ адна карціна: замак над роўняддзю сажалкі, нетутэйшы пейзаж.

— Таксама копія? — паказваючы на яе, цікаўлюся я.

— Арыгінальны твор. У свой час служыў я ў Чэхаславакіі, прывёз адтуль эскіз. А потым ужо дома дапрацаваў яго, давёў да ладу. Вось і нагадвае карціна маю армейскую маладосць. Вельмі ж уразіў тады мяне гэты пейзаж, не ўтрымаўся ад спакусы пакінуць сабе яго на ўсё жыццё.

— І многа працуеш з пэндзлем?

— Калі выпадае вольная хвіліна. Здараецца гэта не так і часта. Работа, хатнія клопаты. Жывём мы ў вёсцы. Тут без гаспадаркі нельга.

Яшчэ і яшчэ раз углядаюся ў карціны. Тут іх не так і многа — крыху больш дзесятка, але хочацца любавацца бясконца, радасць напаўняе сэрца.

— Напэўна, вучыўся недзе? — не ўтрымліваюся, каб не задаць традыцыйнае для журналіста пытанне.

— Вучыўся... Ды і цяпер вучуся... сам, — нетаропка адказвае Іван. — Як захапіўся ў школе маляваннем, так і стаў прыглядацца да твораў лепшых майстроў, пераймаць усё, што найбольш блізка майму сэрцу. Менавіта копіі і былі часткай той вучобы. Пасля пачаў адносіцца да свайго захаплення больш сур'ёзна.

— Сабраў бы свае карціны, выставіў хаця б у райцэнтры.

— Не думаў асабліва пра гэта. Для сябе малюю. Ды і раздаў шмат. Сябрам, аднавяскоўцам. Хай прыгажосць радуе іх сэрцы. А паспрабаваць можна было б...

Не думаў пра вядомасць... Падарыў сябрам прыгажосць... Гэтыя фразы з нашага дыялогу, напэўна, асабліва дакладна адлюстроўваюць характар Івана Сянюты, сціплага працаўніка, таленавітага самадзейнага мастака. І мне здаецца, што не трэба мець вялікія здольнасці прарока, каб сказаць: не праз год, дык праз два, дзесяць, але чакаюць яго вялікія выстаўкі. Талент заслугоўвае пашаны і славы.

**Васіль ЖУШМА.**

РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ

# КАСТРЫЧНІЦКІ СМУТАК

Мы выйшлі з лесу. Панаваў той незвычайны кастрычніцкі надвячорак, які бывае не часта і толькі ў нас над Нёманам. Сонца схавалася за дрэвамі, але было яшчэ светла. На захадзе небасхіл разліўся чырванню на паўнеба, а над ім цёмнаю сцяною спакойна засынаў лес. Ён яшчэ клаў нерухомыя цені далёка на поле, дзе зелянела густая рунь.

З поля плыў памяркоўны ветрык і абдаваў твар трапяткім халадком, які не студзіць, а бадзёрыць. Ён злёгку калыхаў галінкі прыдарожных кустоў.

Якое гэта шчасце ісці па дарозе і трымаць за руку ўнука! Ідзеш, думаеш сваё, а ён шчабеча, шчабеча, і ніякай у яго стомленасці.

— Не гамані! Паслухай, — прапаную.

Мы затрымаліся. Ціха пераклікаючыся, на поўдзень плыў даўжэзны ключ дзікіх гусей. Бачым, адзін гусь вылецеў з ланцуга, прыбавіў хуткасць і стаў наперадзе вугла. Уся гэтая перабудова не парушыла хуткасці палёту і сіметрычнасці ключа.

— Вось паглядзі, — кажу ўнуку, — гусь-галаўнік бярэ на сябе сілу сустрэчнага паветра і, вядома, стамляецца больш за тых, што за ім. Калі ён выб'ецца з сіл, яго заменіць іншы.

— Якія яны разумныя, — прамовіў мой унук, гледзячы ў неба.

Назіраем за імі. Ключ плыве, не мяняючы вышыні і хуткасці. Калі падляталі да Нёмана, па ключы прайшла больш частая гамонка.

— Чаго яны зашумелі? — пытае ўнук.

— Не ведаю. Магчыма, некаторыя прапанавалі тут адпачыць. «Бачыш, якая тут прыгожая рака», — сказалі яны. — «Не трэба. Мусім спяшацца. Не блізка яшчэ», — відаць, выказаліся іншыя.

Гусі павярнуліся, праляцелі над рэчышчам і зноў накіраваліся на поўдзень.

У аддаленні шнурок яшчэ быў відаць на чырвані небасхіла. Усё слабей і слабей чуліся іх галасы.

— Чаму, як адлятаюць птушкі ў вырай, на мяне находзіць смутак? — пытае ўнук.

— Відаць, таму, што наперадзе доўгая халодная зіма, а да вясны не скора. Але ведай: калі б не было смутку, не было б і радасці.

**Яўген КРАМКО.**



Восеньскі матыў.

Фотаэцюд Э. КАБЯКА.

## спорт

Зборная Савецкага Саюза па футболу завяршыла сезон. Ён склаўся для нашай каманды вельмі ўдала. Савецкія спартсмены заваявалі сярэбраныя медалі чэмпіяната Еўропы, алімпійская зборная стала пераможцай Гульняў у Сеуле. І вось нядаўна ў адборачным матчы першынства свету з аўстрыйскімі футбалістамі СССР перамаглі з лікам 2:0. Дарэчы, тут выступалі і мінчане Сяргей Алейнікаў і Андрэй Зыгмантовіч.

Удалая гульня савецкіх футбалістаў не засталася без увагі. Адразу некалькі замежных клубаў запрасілі ў свае калектывы нашых спартсменаў. Так, Аляксандр Заваpаў цяпер выступае ў Італіі, Алег Блахін — у Аўстрыі, Вагіз Хідзіятулін — у Францыі. Як паведамлялася ў друку, такія запрашэнні атрымалі і вядучыя ігракі мінскага «Дынама».

А пакуль беларуская каманда паспяхова стартавала ў розыгрышы Кубка УЕФА. У Плоўдзіве дынамаўцы перамаглі мясцовую «Тракію» з лікам 2:1, а дома завяршылі гульню ўнічыю — 0:0 і выйшлі ў наступны круг, дзе двойчы сустрэнуцца з румынскай «Вікторыяй».

Выступленне беларускіх футбалістаў у замежных клубах — пад пытаннем. Затое дакладна вядома, што баскетбалісткі мінскага «Гарызонта» Наталля Ткачова і Ірына Губа далі згоду гуляць за балгарскі «Электрон» з горада Стара Загора.

Аб іншых спаборніцтвах з удзелам беларускіх спартсменаў.

Многія алімпійцы пасля завяршэння Гульняў у Сеуле выступілі ў міжнародных спаборніцтвах. У Японіі на розыгрышы прызоў канцэрна «Тайота» вызначыліся ў трайным скачку Аляксандр Каваленка і Ігар Лапшын. Яны апярэдзілі чэмпіёна свету і сеульскай Алімпіяды Хрыста Маркава (Балгарыя), занятшы адпаведна першае і другое месцы.

Па традыцыі моцныя беларускія бадмінтаністы. Яшчэ раз яны пацвердзілі гэта на міжнародным турніры ў Берліне. Асабліва вялікага поспеху дамогся мінчанін Віталь Шмакаў. Ён стаў пераможцам у адзіночным, змешаным разрадах, а таксама ў спаборніцтвах сярод мужчынскіх пар. Яго зямлячка Улада Бялюціна была першай у адзіночным разрадзе.

Чакаем мы добрых вестак і з Сурынама, дзе ў разгары чэмпіянат свету па міжнародных шашках. Адразу пяць савецкіх спартсменаў удзельнічаюць у барацьбе за ганаровае званне. І тут мы спадзяёмся на ўдалае выступленне нашых землякоў Анатоля Гантварга і Аляксандра Балякіна.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. № 1478